

ЦАНА — PRICE $ 1.50

FIRST CLASS MAIL

# Беларус

BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published by the Byelorussian American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№. 330
Год выд. XXXV

Верасень
1986 г.

THE WHITE HOUSE

WASHINGTON

August 15, 1986

It gives me great pleasure to extend warm greetings to all those gathered for the 17th Biennial Convention of Byelorussians of North America.

This summer America celebrated its Centennial Year of Liberty, commemorating the dedication of the Statue of Liberty, that proud symbol of freedom and hope for millions throughout the world. Byelorussians are among the many groups of immigrants who, having experienced Soviet oppression, have a special appreciation of Lady Liberty. You can take pride in the important role you play in furthering the traditions of the Byelorussian people and in making America a culturally richer and more vibrant land in which to live.

May the ancient faith of your fathers give you strength, courage, and hope as you seek to advance the cause of freedom and self-determination for your beloved homeland.

God bless you.

Ronald Reagan

**Прывітальнае пасланьне 17-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ад Прэзыдэнта Рональда Рэйгана**

## АЙЦЕЦ РОБЭРТ ВАН КАЎЭЛЯРТ

**(19.V.1906 — 19.VIII. 1986)**

Недалёка ад Брусэлю памёр 19 жніўня сёлета айцец Робэрт Ван Каўэлярт дэ Уільс, манах-бэнэдыктынец, каталіцкі сьвятар бізантыйскага абраду, вялікі й шчыры прыяцель Беларусаў.

У канцы 1940-х і ў 1950-х гадох а. Робэрт быў адміністратарам і апякуном групы беларускіх студэнтаў Лювэнскага ўнівэрсытэту ў Бэльгіі. Дзякуючы ягонай прыхільнасьці да беларускае нацыянальнае справы ды ягонай энэргіі й энтузіязму, беларускія студэнты Лювэнскага ў-ту мелі магчымасьць, апрача здабываньня асьветы, займацца таксама грамадзка-арганізацыйнай працай (у Бэльгіі ў тым часе было цімала шахцёраў-Беларусаў, дзейнічаў Беларускі Работніцкі Саюз) ды беларуска-мастацкай самадзейнасьцяй.

У Лювэн перабраўся з Заходняй Нямеччыны кампазытар Мікола Равенскі, які стварыў там хор, пры хоры паўстаў танцавальны гурток, у Лювэн часта наведваўся з Зах. Нямеччыны прыяцель Равенскага, кампазытар і піяніст Алесь Карповіч, і беларускі ансамбль Лювэнскага ў-ту ў першай палавіне 50-х гадоў, дзякуючы захадам а. Робэрта, шырака выступаў з канцэртамі, да якіх далучаўся таксама басаліст Пётра Конюх, ня толькі па цэлай Бэльгіі, але ў Ангельшчыне, Францыі, Заходняй Нямеччыне. Песенны рэпэртуар хору, дзякуючы а. Робэрту, быў запісаны на магнітафонную йстужку ды выдадзены на кружэлках.

Айцец Робэрт паходзіў з выдатнае флямандзкае сям'і, прадстаўнікі якое займалі высокія становішчы ў галіне палітыкі, журналізму, рэлігіі. Дзядзька а. Робэрта быў сваім часам мэрам гораду Антвэрпэну, а пасьля прэзыдэнтам бэльгійскага парлямэнту. Усе яны былі адначасна й дзеячамі флямандзкага культурнага адраджэньня, справы забясьпечаньня флямандзкай мове ў Бэльгіі роўных правоў з моваю францускаю, якою карыстаецца валёнская частка жыхарства краіны. Дзеля гэтага якраз а. Робэрт вельмі добра разумеў мэты беларускага нацыянальнага руху, ськіваванага на абарону правоў беларускае мовы й культуры. На гэтым грунце ў а. Робэрта вырасла й захавалася на ўсе далейшыя гады пачуцьцё глыбокае прыязьні да Беларусаў.



У 1956 годзе газэта «Бацькаўшчына», № 303, адзначаючы 50-годзьдзе а. Робэрта Ван Каўэлярта, назвала яго «Чалавекам Вялікага Сэрца». Газэта адзначыла, што а. Робэрт на працягу васьмёх год «быў усюды вялікім абаронцам беларускага народу. Ягоная высокая культура, ягоныя кантакты й аўтарытэт ламалі нам лёд, чаго ніхто з нас не патрапіў-бы зрабіць».

Плён прыязьні а. Робэрта Ван Каўэлярта зь беларускімі студэнтамі й работнікамі ў Бэльгіі, зь беларускім палітычным актывам на эміграцыі, трывалы ды ўзбагачаецца далей праца тых, каму ён сваім часам дапамог здабыць асьвету, каго натхніў сваім прыкладам і верай у ідэалы хрысьціянскія й нацыянальныя.

Акт пахаваньня 23-га жніўня быў выкананы біскупам, блізкім сваяком Нябожчыка. Пахаваны а. Робэрт недалёка ад Брусэлю, дзе апошнімі гадамі, хворы ўжо й часткава спаралізаваны, жыў у доме для перастарэлых. На паховінах былі прадстаўнікі ад Беларусаў Бэльгіі, у тым ліку й колішнія лювэнскі студэнты, а таксама а. Аляксандар Надсон зь Лёндану.

Сьветлы ўспамін пра а. Робэрта Ван Каўэлярта і глыбокая ўдзячнасьць яму будуць заўсёды жыць у сэрцы Беларусаў.

**Янка Запруднік**

## СУСТРЭЧА АДБЫЛАСЯ!

У сёлетняй Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ўзяло ўдзел больш за паўтысячы суродзічаў ня толькі з Амэрыкі й Канады, але й з Ангельшчыны, Францыі, Бэльгіі, Італіі, а таксама зь Беларусі.

Сустрэчу віталі Прэзыдэнт ЗША Рэйган, улады гор. Кліўленду, беларускія арганізацыі на Захадзе.

У часе Сустрэчы адбыліся сходы, нарады, паседжаньні розных беларускіх арганізацыяў і ўстановаў. Беларуска-амэрыканская моладзь правяла свой справаздачна-перавыбарны сход. Вялікую ўвагу ўдзельнікаў Сустрэчы прыцягнулі выстаўкі газэты «Наша Ніва», эміграцыйных кніжных выданьняў і мастацкіх вырабаў.

Удала прайшоў сымпозіюм, прысьвечаны «Нашай Ніве», баль Сустрэчы. Усе тры дні надвор'е было вельмі спрыяльнае.

У нядзелю былі адслужаныя праваслаўная й каталіцкая багаслужбы.

На банкеце, на якім было больш за 200 асобаў, былі выслуханыя прывітаньні, прамовы ды інфармацыйныя паведамленьні. Было аднадушна ўхвалена стварыць камітэт дапамогі ахвярам Чарнобыльскае катастрофы на Беларусі. Збор грошай на газэту «Беларус» даў больша за тысячу даляраў. Усім ахвярдаўцам шчырая падзяка!

Канцэрт беларускае песьні й танцу прайшоў надзвычай удала, пра што сьветчаць зьмешчаныя ў гэтым нумары выказваньні ўдзельнікаў Сустрэчы, апытаньне якіх правяла супрацоўніца «Беларуса» сп-ня Зора Кіпель.

Пра 17-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі колькі разоў паведамляла ў сваіх перадачах на Бацькаўшчыну радыястанцыя «Свабода».

Дакладнейшыя інфармацыі аб прабегу Сустрэчы будуць зьмешчаныя ў наступным нумары «Беларуса».

## БЕЛАРУСЬ ПАЦЯРПЕЛА БОЛЬШ ЯК УКРАІНА

У рапарце савецкае ўрадавае камісіі аб прычынах і выніках Чарнобыльскае ядзернае аварыі, у Залучніку нумар 5 («Атмасфэрны перанос і радыяактыўнае забруджаньне атмасфэры й мясцовасьці») сказана:

«У мамэнт ўтварыўся воблак, які сфармаваў пасьля радыяактыўны сьлед на мясьцовасьці ў заходнім і паўночным кірунках, згодна з мэтэаралягічнымі ўмовамі пераносу паветраных масаў. У далейшым з зоны аварыі на працягу даўжэйшага часу працягваў выплываць струмень газападобных, лятучых і аэразольных прадуктаў. Найбольш магутны струменьназіраўся на працягу першых 2-3 сутак па аварыі ў паўночным кірунку....

«Порцыі забруджаных паветраных масаў (воблакі й порцыі струменю радыяактыўных прадуктаў) распаўсюдзіліся згодна зь кірункам вятроў на вялікія воддалі па тэрыторыі СССР» (б. I).

Далей у тым-жа Залучніку 5-м, на балонцы 3-яй, чытаем:

«У прызямным пласьце паветра 26 красавіка дальны перанос паветраных масаў адбываўся ў заходнім, паўночна-заходнім кірунках, з выхадам траекторыі распаўсюджаньня паветраных часьціцаў 26 і 27 красавіка ў раёны на мяжы з Польшчай, што пацьверджана дадзенымі вымерваньня ападкаў радыяактыўнасьці. Наступнымі днямі з 27 па 29 красавіка, паводля дадзеных вымерваньня самалётамі, перанос радыяактыўных прадуктаў у прызямным пласьце паветра на вышыні 200 м. адбываўся ў паўночным і паўночна-ўсходнім кірунках ад АЭС....

«У далейшым нязначны выхад радыяактыўных прадуктаў з зоны АЭС ды іхны перанос працягваўся пераважна ў паўдзённым кірунку аж да 7-8.05.86 г., абумовіўшы ападкі ў паўдзённым кірунку».

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць погляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.



# ЧАРНОБЫЛЬ: ХТО ХЛУСІЦЬ?

20-га ліпеня сёлета газэта «Правда» зьмясьціла інфармацыю аб паседжаньні Палітбюро ЦК КПСС, на якім быў заслуханы даклад урадавай камісіі аб выніках расьследаваньня прычынаў і вынікаў аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі (АЭС). У дакладзе сказана, што авара прывяла да «радыяактыўнага забруджаньня вакол станцыі на тэрыторыі каля 1000 кв. км.». «Правда» падала, што на гэтай тэрыторыі «выведзеныя з ужытку сельскагаспадарчыя землі, спыненая праца прадпрыёмстваў, будоўляў ды іншых арганізацыяў».

Гэта была першая ў савецкім друку заява, што на прасторы аднае тысячы квадратных кілямэтраў, г. зн. у радыюсе больш як 18 км., спыненая ўсялякая працоўная дзейнасьць. Заява гэтая ўваходзіць у супярэчнасьць з савецкімі газэтамі, а ў тым ліку й зь беларускімі, якія да 20-га ліпеня пісалі, што жыцьцё навокала Чарнобыля паступова нармалізуецца. Вось, прыкладам, менская «Сельская газета» ў рэпартажы карэспандэнта БелТА Куксы аптымістычна падавала 20-га травеня, што ў вёсках Хойніцкага й Брагінскага раёнаў, якія апынуліся ў небясьпечнай зоне радыяцыі, пануе «нармальны працоўны рытм, жыцьцё ўваходзіць у звычайную каляіну». Тая-ж «Сельская газета» 25-га травеня пісала, што ў Брагінскім, Хойніцкім і Нараўлянскім раёнах (гэта раёны найбліжэйшыя да АЭС — А.В.) першымі днямі па аварыі адзначаўся высокі ўзровень радыяцыі, але ўзровень гэты за месяц значна абнізіўся. «Цяпер, — паведамляла «Сельская газета» 25-га травеня, — у гэтых раёнах праводзяцца ўсе працы, у тым ліку й сельскагаспадарчыя».

Газэта «Зьвязда» ў нумары з 31-га травеня пісала ў рэпартажы пад заг. «У 15 км. ад Чарнобыля», што ў вёсках Хойніцкага й Нараўлянскага раёнаў, «поўным ходам ішла касьба траў», людзі «цюкавалі сена, грузілі на машыны і вывозілі пад павеці».

Можна было-б прывесьці цімала падобных паведамленьняў карэспандэнтаў БелТА і ТАСС, у якіх апісваўся «нармальны працоўны рытм» у раёне павышанае радыяцыі. А цяпер Палітбюро КПСС заяўляе, што на прасторы 1000 кв. км. былі «выведзеныя з ужытку сельскагаспадарчыя землі, спыненая праца прадпрыёмстваў, будоўляў ды іншых арганізацыяў».

Каму-ж верыць? Думаецца, што больш веры тут трэба даваць паведамленьню ўрадавае камісіі, заяве Палітбюро.

Выходзіць, што савецкі масавы друк займаўся хлусьнёю, пішучы пра «нармалізацыю жыцьця» вёсак у 18-кілямэтравай зоне. І дзеля чаго ўся гэтая кампанія хлусьні праводзілася? — Відаць, дзеля заспакаеньня жыхарства ў раёне аварыі, каб прыхаваць запраўдныя памеры яе, каб суняць чуткі й здогады аб запраўдных памерах катастрофы, якая, як цяпер выяўляецца, была й ёсьць страшнейшая, чымся першыя афіцыйныя паведамленьні пра яе.

**Алесь Васілеўскі**

## ДАВЯДЗЕЦЦА СПАЛЬВАЦЬ ЛЯСЫ

Падаючы пра савецкі рапарт (382 бачыны машынапіснага друку) аб чарнобыльскай ядзернай аварыі, газэта «Нью-Ёрк Таймс» (22.VIII) адзначыла, што жыхаром, эвакуаваным зь небясьпечнай зоны, давядзецца чакаць, можа, да чатырох і больш гадоў, пакуль яны здолеюць вярнуцца ў свае родныя мясьціны. Эвакуаваных усіх было 135 тыс. асобаў. Заражэньне навакольля, як вынікае з урадавага рапарту, значна шырэйшае, чымся пра гэта паведамляў раней савецкі друк. З рапарту відаць, піша «НЁТ», што ў некаторых выпадках, магчыма, давядзецца паліць лясы ў 30-кілямэтравай зоне, зь якое былі вывезеныя людзі.

Паводля савецкага афіцыйнага рапарту, піша «НЁТ», у Берасьцейскай вобласьці 50% малака й малочных прадуктаў былі заражаныя радыяцыяй. У Гомельскай-жа вобласьці, найбліжэйшай да Чарнобыля, 90% рыбы ў рэках і вазёрах заражаныя радыяцыяй.

## ПАВЫШАНАЯ РАДЫЯЦЫЯ НА МАГІЛЕЎШЧЫНЕ

У пяцёх паўдзённа-ўсходніх раёнах Магілеўскае вобласьці — Краснапольскім, Касьцюковіцкім, Клімавіцкім, Слаўгарадзкім і Чэрыкаўскім — былі сьцьверджаныя «агмяні (ачагі) з павышаным узроўнем радыяцыі», як падала газэта «Советская Белоруссия» за 30-га ліпеня. З Краснапольскага раёну былі вывезеныя дзеці, пазачыняныя студні. У іншых названых раёнах таксама былі пазачыняныя студні, павыкіданыя прадукты харчаваньня. У Слаўгарадзкім раёне, піша газэта, дзялянкі глебы заражаныя радыяцыяй. «Увесь верхні пласт глебы, сьмяцьцё, — піша «Сов. Бел.», — вывезеныя чым далей ад жыльля й закапаныя.

«Нажаль, — адзначае газэта, — нельга сказаць, што ўсе парады, рэкамэндацыі й патрабаваньні мэдыцынскіх працаўнікоў, вучоных усюды дакладна выконваюцца. Часамі перашкаджаюць справе незараднасьць, інэртнасьць, а сям-там і безадказнасьць гаспадарнікаў».

У Краснапольскім раёне людзі жаліліся, што «ў паасобныя магазыны нерэгулярна завозяцца прадукты».

*ПАДПІШЭЦЕСЯ НА ГАЗЭТУ «БЕЛАРУС» ДЛЯ СВАЙГО ЗНАЁМАГА, ЗРАБЕЦЕ ЯМУ ПАДАРУНАК, ШТО БУДЗЕ ТРЫВАЦЬ ЦЭЛЫ ГОД.*

## АХВЯРЫ РАДЫЯЦЫІ: НА БЕЛАРУСІ БОЛЬШЫЯ

Сьмяротнасьць ад радыяцыі з Чарнобыльскае АЭС будзе вышэйшая, як сіі аб чарнобыльскай аварыі. Паводяк на Ўкраіне. Пра гэта было сказана на міжнароднай канфэрэнцыі ў Вене, дзе разглядаўся рапарт савецкае камісіі аб Чарнобыльскай аварыі. Паводля пададзеные на канфэрэнцыі савецкае статыстыкі, як паведаміла заходня-нямецкая газэта «Штутгартэр Цайтунг» (27.VIII), «найбольш былі заражаныя радыяактыўнасьцяй сельскія мясцовасьці паўдзённа-ўсходняй Беларусі, на другім месцы стаяць сельскія мясцовасьці цэнтральнае Ўкраіны. У паўдзённа-ўсходняй Беларусі, — піша газэта, — у 1986 годзе радыяактыўнасьць будзе трымацца на ўзроўні 0,98 рэма (у гарадох 0,52). У прадказваньнях для Ўкраіны падаецца адпаведна 0,27 і 0,15 рэма».

Рэм (ад ангельскіх словаў Roentgen Equivalent Man) — адзінка вымеру абсарбаваных дозаў радыяцыі, роўная аднаму рэнтгену гамавых промняў.

### НА БЕЛАРУСЬ НЯ ПУСЬЦІЛІ

Заходнім дыпляматам і журналістам, якія хацелі наведаць Украіну й Беларусь, каб самым пабачыць, як праходзіць жніво ў раёнах, заражаных радыяцыяй ад чарнобыльскае ядзернае аварыі, савецкія ўлады дазволу не далі, як падала газэта «Нью-Ёрк Таймс» 17 жніўня (гл. паведамленьне маскоўскага карэспандэнта «НЁТ» Фэлісыты Барынджэр).

### АДМОВІЛІСЯ ЕХАЦЬ НА ГОМЕЛЬШЧЫНУ

Як падала маскоўская газэта «Советская культура» (29.VII), «некаторыя выканальнікі й творчыя калектывы Расканцэрту й Масканцэрту (канцэртавыя арганізацыі Расійскае Фэдэрацыі — рэд. «Б-са») ды іншых канцэртавых арганізацыяў пад рознымі выдуманымі прычынамі адмовіліся прыехаць на заплянаваныя гастролі ў Гомельскую вобласьць».

Газэта падала словы сакратара абласнога партыйнага камітэту Гомельскае вобласьці Сяргея Бабыра: «Частыя паведамленьні на афішах з прозьвішчамі ведамых выканальнікаў — 'касуецца', 'касуецца' — запраўды, ня спрыялі ўздыму настрою. Было цяжка вытлумачыць людзям палажэньне».

### НЯМА НАВЕТ АСЬПІРЫНУ

Як даведваемся ад асобаў, што наведалі ўлетку сёлета Беларусь, у некаторых прынамся вёсках у раёнах, заражаных радыяцыяй, не ставала навет асьпірыну, ня кажучы ўжо пра іншыя патрэбныя мэдыкамэнты. Адразу-ж па выбуху на Чарнобыльскай АЭС прадстаўнікі ўладаў прайшліся па вясковых хатах і панішчылі ўсе кансэрвы, каб людзі іх не спажывалі. Але ўзамен улады нічога не далі, і ў шмат якіх выпадках вяскоўцы змушаныя былі есьці тое, што расло на іхных прысялібных дзялянках, г. зн. заражаную радыяцыяй гародніну.

### РАТАВАНЬНЕ ПРАПАГАНДАЙ

Карэспандэнтка маскоўскае газэты «Советская культура» Абакумаўская гутарыць з сакратаром Гомельскага абласнога камітэту партыі Сяргеем Бабыром. Бабыр кажа: «Стратэгію інфармацыйна-прапагандысцкага забясьпечаньня мерапрыёмстваў для ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС выпрацоўвае абласны штаб. Апрача гэтага, створана 47 інфармацыйна-прапагандысцкіх групаў».

## ЗЬЕЗД РЭСПУБЛІКАНСКІХ ЭТНІЧНЫХ ГРУПАЎ

У Лёс-Анджэлесе 26-29 чэрвеня сёлета адбыўся 16-ты гадавы зьезд рэспубліканскіх этнічных арганізацыяў, якія ўваходзяць у склад Нацыянальнае Рады Рэспубліканскіх Групаў Этнічнае Спадчыны. На зьезьдзе былі прадстаўленыя 33 рэспубліканскія этнічныя фэдэрацыі і 24 штатавыя рэспубліканскія этнічныя рады. Беларуска-Амэрыканскую Рэспубліканскую Фэдэрацыю Амэрыкі прадстаўляў на зьезьдзе каліфарнійскі аддзел Фэдэрацыі.

На зьезьдзе былі разгледжаныя пытаньні далучэньня да Рэспубліканскае партыі новых грамадзянаў ЗША, больш актыўнага ўдзелу рэспубліканцаў у выбарах у мясцовыя, штатавыя й фэдэральныя органы ўлады, а таксама былі выпрацаваныя папраўкі да статуту Нацыянальнае Рады Рэспубліканскіх Групаў.

Найбольш часу было прысьвечана папраўкам да статуту й рэзалюцыям. У рэзалюцыях зьезд выказаўся за прызнаньне ангельскай мове статусу афіцыйнае мовы ЗША; за абнаўленьне сыстэмы асьветы; за большую ролю сям'і ў грамадзтве; за падтрыманьне абароннае праграмы Прэзыдэнта Рэйгана ды іншых ініцыятываў Белага Дому ў галіне замежнае палітыкі; зьезд асудзіў савецкую палітыку русыфікацыі, дэнацыяналізацыі ды ўціску іншых народаў і дзяржаваў; падтрымаў справу мадэрнізацыі радыястанцыяў «Голас Амэрыкі», «Вольная Эўропа», «Свабода» ды заклікаў кіраўніцтва «Голасу Амэрыкі» ўвесьці ў свае праграмы перадачы беларускаю моваю. Рэзалюцыі зьезду выдадзеныя асобнай брашураю (8 старонак друку).

**Удзельнік**

## АЙЦЕЦ А. НАДСОН — АПОСТАЛЬСКІ ВІЗЫТАТАР

Айцец Аляксандар Надсон быў прызначаны 30 чэрвеня сёлета за Апостальскага Візытатара Беларусаў-каталікоў. Становішча гэтае будзе вымагаць часьцейшых падарожжаў ад а. Аляксандра, які дасюль, апрача сваіх душпастырскіх абавязкаў, шмат часу прысьвячаў справам Беларускае Бібліятэкі й Музэю імя Ф. Скарыны ў Лёндане. На сваім новым становішчы а. Надсон наведаў у жнівенірасьні сёлета Беларусаў Амэрыкі, а на пачатку наступнага году спадзяецца паехаць у падарожжа да суродзічаў у Аўстралію й Новую Зэляндыю.

## АЛЕГ БЕМБЕЛЬ ВЫКІНУТЫ З ПАРТЫІ, ЗВОЛЬНЕНЫ З ПРАЦЫ

Беларускі савецкі філёзаф Алег Бембель, аўтар кнігі «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс» (гл. «Беларус» № 328), паводля неафіцыйных вестак зь Беларусі, выключаны з партыі й звольнены з працы пры Акадэміі навукаў БССР за напісаньне свае кнігі. Бембелява кніга выйшла ў выдавецтве Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі пасьля таго, як яе адмовіліся выдаць у Менску.

Алег Бембель — сын заслужанага беларускага савецкага скульптара Андрэя Бембеля, прафэсара, члена партыі, народнага мастака БССР.

У сваёй кнізе Алег Бембель зьмясьціў 70 інтэрвію з рознымі людзьмі ў БССР на тэму «Што мы думаем пра цябе, беларуская мова?» Аўтар кнігі бароніць беларускую мову перад выціскaньнем яе з ужытку ў БССР, прарочыць ейную няўміручасьць, адкідае догму пра зьліцьцё ўсіх моваў у адну для цэлага чалавецтва.

# «ВАШЫНГТОН ПОСТ» АБ ПРАВАСЛАЎНЫХ ПОЛЬШЧЫ

Газэта «Вашынгтон Пост» (21.VIII.86) зьмясьціла артыкул свайго карэспандэнта Джэксана Дыля (Diehl) пад заг. «Абрад для праваслаўных Польшчы» з падзагалоўкам «Нацыянальныя меншыні краю адбываюць сваё гадавое паломніцтва». Да артыкулу дадзеная карта Польшчы з абазначэньнем на ёй трох пунктаў: Варшавы, Беластоку й сьвятое гары Грабаркі, што на паўдні ад Беластоку.

Прыбыўшы на сьв. гару Грабарку, карэспандэнт апісвае, што ён там пабачыў:

«Цэлае папаўдня паломнікі з прымітыўнымі драўлянымі крыжамі зыходзіліся да малое каплічкі з цыбуляпадобным купалам на вяршаліне лясістае гары. Пад вечар крыжы былі параставяныя навокала царкоўкі ды пасьвенчаныя сьвятарамі ў чорных сутанах, а вернікі запальвалі сьвечкі й рыхталіся да ўсяночнае службы, сузіраньня й малітваў.

«Гэтыя падарожнікі — Палякі, і сьвятыня, да якое яны зыйшліся гэтага панядзелку (карэспандэнт тут мае наўвеце панядзелак 18-га жніўня, пярэдадзень Спаса — рэд. «Б-са»), была рэлігійным цэнтрам на працягу больш як чатырох стагодзьдзяў. Але мовы, якімі гэтыя людзі карысталіся — беларуская, украінская, літоўская ды славянска-нямецкая гаворка, званая вэндзкай — задзівілі-б бальшыню людзей з гарадоў Польшчы, а практыкаваны імі праваслаўны абрад выглядаў экзатычным у гэтай краіне зь ейным дамінуючым каталіцкім веравызнаньнем».

Газэта піша далей, што паломніцтва дзесяткаў тысячаў людзей на сьв. гару Грабарку — гэта «наймацнейшая дэманстрацыя існаваньня культураў, зь неахвотай празнаваных рэштай краіны». Сотні тысячаў ня-польскіх славянаў, піша «ВП», «змагаюцца за перахаваньне сваіх моваў і традыцыяў». І ў гэтым змаганьні Праваслаўная Царква выявіла сябе «нязвычайным пляцдармам». Газэта цытуе выказваньне беластоцкага Беларуса Андрэя Ціханюка: «Царква дае людзям адчуваньне адзінства, і гэта вельмі важна. Яна дае нам, як мяншыні, пачуцьцё апрычонасьці».

Урачыстасьці на сьв. гары Грабарцы адбываюцца ў капліцы, навокала яе, а таксама на могільніку ды каля крыніцы, якая славіцца містычна-вылячальнай сілай.

У рэлігійных урачыстасьцях у нядзелю, піша газэта «ВП», узяло ўдзел да 30 тысячаў людзей. У панядзелак было застаўшыся яшчэ 10 тысячаў. Гэткія натоўпы людзей, зазначае газэта, пярэчаць афіцыйным цьверджаньням камуністычных уладаў Польшчы, паводля якіх Польшча — гэта «этнічна аднародная нацыя». Афіцыйна санкцыянаваныя культурныя арганізацыі Ўкраінцаў і Беларусаў, піша газэта, маюць усяго па 6 тысячаў сяброў». Прадстаўнікі-ж Праваслаўнай Царквы кажуць, што бальшыня прыхаджанаў 250 праваслаўных сьвятыняў, якіе налічваюць каля мілёну асобаў, — гэта этнічныя Ўкраінцы, Літоўцы, Беларусы й навет Расейцы, якія карыстаюцца аднэй або й больш мовамі, апрача польскай».

Газэта падае словы Аляксея Андрэйчука, студэнта праваслаўнае сэмінарыі ў Варшаве: «У цэнтральнай Польшчы некаторыя людзі навет нічога ня ведаюць пра мяншыні. Але ўва ўсходняй Польшчы ёсьць вёскі, дзе мяншыня становіць бальшыню, дзе кожны гутарыць пабеларуску перад тым як пачаць гаварыць папольску».

На Грабарцы, паводля газэта «ВП», «найбольшая група паломнікаў, як выглядала, былі Беларусы, сканцэнтраваныя ў навакольнай Беластоцкай правінцыі, пасьля якіх ішлі Украінцы. Але можна было пачуць таксама й тых, хто гутарыў папольску, парасейску, палітоўску, павэндзку ды іншымі гаворкамі».

Было на гары Грабарцы, паводля газэты, крыху людзей і з-за савецкае мяжы, але, як сказалі царкоўныя кіраўнікі, савецкая палітыка скіравана «выразна» на перагароджваньне шляху да Грабаркі.

Традыцыя паломніцтва на сьв. гару Грабарку, піша газэта «Вашынгтон Пост», расьце з году на год. У сёлетніх урачыстасьцях узялі ўдзел усе пяць епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Ад 1980 году расьце таксама лік моладзі, якая прыходзіць сюды. Калі шэсьць гадоў таму ў арганізаваным спэцыяльна для праваслаўнае моладзі лягеры было 70 удзельнікаў, дык летась іх было ўжо больш за тры тысячы.

# «ЗЬВЯЗДА» ПРА СУСТРЭЧУ БЕЛАРУСАЎ ПН. АМЭРЫКІ

Орган ЦК кампартыі Беларусі газэта «Зьвязда» (8.VII.86) у артыкуле А. Бажка й В. Пепляева пад заг. «Хто пасьвіць 'траянскіх коней'?» зьвягнула на 15-ю сустрэчу Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, што адбылася ў 1982 г. ды была прысьвечаная 100-годзьдзю ад нараджэньня Купалы й Коласа. У колькіх месцах свайго артыкулу Бажко зь Пепляевам спасылаюцца на газэту «Беларус» (справаздача пра Сустрэчу была зьмешчаная ў № 303-304), але «Беларуса» гэтым пісакам, відаць, не паказалі, бо імя старшыні БАЗА *Антона* Шукелайця (якое тлустым шрыфтам выпісанае пад загалоўкам тэксту ягонае прамовы на першай старонцы «Беларуса» № 303-304) у зьвяздоўскіх рэпартэраў выйшла «Алоісам». Не ўгадалі!... Пальцам у неба трапляюць Бажко зь Пепляевам, пішучы і пра іншых асобаў. Прыкладам, а. Робэрт ня быў аніякім «рэктарам» Лювэнскага ўнівэрсытэту, як гэта цьвердзяць зьвяздоўскія «публіцысты»-КДБісты; а. Леў Гарошка ня быў таксама ніякім «выпускніком» папскага «Русікуму». У Савецкім Саюзе дэфіцыт ня толькі на джынсы й асьпірын, але й на інфармацыю.

Артыкул «Хто пасьвіць 'траянскіх коней'?» зьмешчаны ў рубрыцы «Клерыкалізм і антыкамунізм». Пад галоўны абстрэл у ім пастаўлены а. Аляксандар Надсон, які, паводля Бажка-Пепляева, «даволі працяглы час карыстаўся сярод некаторых нашых вучоных рэпутацыяй прагрэсыўнага эміграцкага навуковага дасьледчыка». Айцец Надсон быў удзельнікам 15-ае Сустрэчы, прамова ягоная на Сустрэчы была зьмешчаная ў «Беларусе». Савецкім прапагандыстам не спадабалася, што а. Надсон «заклікаў сваіх калег-адшчапенцаў як мага хутчэй мацаваць сувязі з суайчыньнікамі на радзіме, дзень пры дні цікавіцца, чым яны жывуць, каб цалкам не адарвацца ад народу».

Але-ж, кадэбістам не падабаецца, калі эмігранты-«адшчапенцы» «дзень пры дні» цікавяцца, чым жывуць людзі на бацькаўшчыне, бо пры гэткім зацікаўленьні можаш зашмат даведацца. Камітэт Дзяржаўнае Бясьпекі хацеў-бы, каб эмігранты чыталі толькі ягоны орган «Голас Радзімы».

Партыйная прапаганда павяла апошнім часам узмоцнены наступ на рэлігію, бо шмат хто ў Савецкім Саюзе, рэагуючы на дэмаралізацыю ў савецкім грамадзтве, пачаў зварачацца да хрысьціянскае маралі, як крыніцы этыкі й духовага адраджэньня. Пад атаку з боку кансэрватараў-атэістаў трапіў і беларускі пісьменьнік Васіль Быкаў.

Не прайшло паўз увагу «Зьвязды» й тое, што 15-я Сустрэча Беларусаў Пн. Амэрыкі была «заўважана ня толькі губэрнатарам штату (Нью-Джэрзы), але й цяперашнім гаспадаром Белага Дому містэрам Рональдам Рэйганам».

**А. Будзіч**

## *В. БЫКАЎ І РЭЛІГІЙНАЯ ТЭМАТЫКА*

Агенцтва Ройтэра паведаміла 30 ліпеня сёлета з Масквы пра артыкул савецкага партыйнага тэарэтыка І. Крывялёва з крытыкай трох вядучых савецкіх пісьменьнікаў: Васіля Быкава (Беларус), Чынгіза Айтматава (Кіргіз) і Віктара Астаф'ева (Расеец).

Крывялёў, пішучы ў газэце «Комсомольская Правда» (30.VII), абвінавачваў усіх трох у «флiртанавьні з рэлігійнай тэматыкай» у іхнай творчасьці.

Васіля Быкава Крывялёў скрытыкаваў за цьверджаньне, што біблейскія дзесяць запаветаў застаюцца й дагэтуль маральным кодэксам, якім людзі кіруюцца ў сваім жыцьці.

## РАЗВОДЫ Ў СССР: 63%!

Газэта «Московская Правда» (6.VII.86) падала, што колькасьць разводаў у Савецкім Саюзе вырасла да рэкордных памераў: толькі 37% жанімстваў трываюць больш як тры гады. Распад новых сем'яў выкліканы галоўна фінансавымі цяжкасьцямі ды нястачай асобнага жыльля для маладых параў.

## 50-ГОДЗЬДЗЕ САКРАТА ЯНОВІЧА

Беларускі пісьменьнік Сакрат Яновіч, які жыве на Беласточчыне, адзначыў у травені сёлета 50-годзьдзе жыцьця й 30-годзьдзе літаратурнае працы (дэбютаваў у травені 1956 г. на старонках газэты «Ніва»). За гэты час зьявілася 15 Яновічавых кніжак ды кніжыц. Шмат публікацыяў іншых аўтараў выйшла пад ягонай рэдакцыяй.

У газэце «Ніва» за 7 верасьня сёлета зьмешчаны артыкул Яна Морданя пад заг. «Сакрату Яновічу — 50»; Яновічаў новы твор-мініятура «Одум» (сынтэз пражытага жыцьця, пагляд на сябе й на эпохі), а таксама артыкул пра юбіляра.

Сваім часам С. Яновіча друкавала й прыхільна пра яго пісала менская газэта «Літаратура і Мастацтва». Але летась газэта «Зьвязда» (у арт. Бажка й Пепляева «Шляхамі здрады і прымусу», нумар за 7 чэрвеня) абвінаваціла «небезьвядомага ў нас беластоцкага 'беларусолага'» Сакрата Яновіча ў тым, што для яго «ўсё рускае, як гаворыцца, страшэнна кароткае і вузкае».

## ГАРБАЧОВУ ПРА КУКАБАКУ

Кангрэсмэн Франк Анунцыё із штату Іліной (г. Чыкага) напісаў ліст генэральнаму сакратару ЦК КПСС М. Гарбачову з просьбай дазволіць беларускаму вязьню сумленьня Міхалу Кукабаку выехаць на Захад. Кукабака знаходзіцца ў зьняволеньні ад 1970 году за свае палітычныя, рэлігійныя й нацыянальна-культурныя перакананьні.

Тэкст ліста кангрэсмэна Анунцыё зьмешчаны ў ягоным выступленьні ў Кангрэсе ЗША з нагоды 68-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі (гл. «Кангрэсавыя Запісы», 8.IV. 1986, б. E 1010).

У сваім выступленьні кангрэсмэн Анунцыё адзначыў патрыятычную дзейнасьць Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага ды выдатны ўдзел амэрыканскіх Беларусаў у «духовым, эканамічным і інтэлектуальным росьце Амэрыкі».

## КАНФЭРЭНЦЫЯ ПРА СЛАВЯНСКІ НАЦЫЯНАЛІЗМ

Пры Макмастэрскім унівэрсытэце ў канадзкім горадзе Гамільтоне, правінцыя Антарыё, адбудзецца 17-18 кастрычніка сёлета міжнародная канфэрэнцыя пра «славянскі нацыяналізм».

Асобная сэсія на канфэрэнцыі будзе прысьвечаная нацыянальнай праблеме ў Савецкім Саюзе. На гэтай сэсіі (сыбота 18-га, ад 9-й да 12-й гадз. ўраньні) брытанскі славіст праф. Арнольд Макмілін прачытае даклад на тэму «Русыфікацыя ды ейныя апанэнты ў новай беларускай літаратуры».

Супраць праф. Макміліна, аўтара кнігі «Гісторыя беларускай літаратуры» (паангельску), быў нядаўна зроблены выпад на старонках маскоўскай «Литературной газеты» (гл. «Беларус» № 329). Беларускі савецкі гісторык Мікалай Сташкевіч абвінавачваў Макміліна ў «пашыраньні думкі аб тым, што сучасная беларуская літаратура працятая духам нацыяналізму, а носьбітамі яго сталася, быццам-бы, маладое пакаленьне пісьменьнікаў».

## СЛАВЯНСКІ ФЭСТЫВАЛЬ У НЬЮ-ЁРКУ

Беларусы Нью-Ёрку возьмуць удзел у сёлетнім Славянскім фэстывалі, што адбудзецца ад 18 да 30 кастрычніка сёлета. У сыботу 18-га ў памешканьні Ўкраінскага Інстытуту Амэрыкі (2 Іст 79 вул. ў Мангатэне) адбудзецца сымпозіюм на тэму «Амэрыканскія Славяне ў пошуках свае ідэнтыфікацыі». Там-жа ў панядзелак 20-га (7:30 гадз. увечары) адбудзецца прыняцьцё з нагоды адчыненьня мастацкае выставы. Там-жа ў чацьвер 23-га (7:30 увечары) адбудзецца прыняцьцё для прадстаўнікоў славянскіх арганізацыяў Нью-Ёрку, а ў сыботу 25-га будзе праведзены «Украінскі сымпозіюм».

У Ньюёрскай Публічнай Бібліятэцы ад І кастрычніка да 30 лістапада будзе адчыненая выстаўка славянскіх кніжак з пэрыяду 1866-1986 гадоў.

Фэстываль славянскіх танцаў адбудзецца 31 студзеня 1987 г. ў Лінкольнскім Цэнтры Мастацтваў (заля імя Аліс Тулы).

Па дадатковыя інфармацыі зварачацца трэба да сп-чны Раісы Станкевіч, якая належыць да кіраўніцтва Рады Славянскае Спадчыны Амэрыкі (тэл.: 212 794-5974).

## *НАСТУПНАЯ ДАНЧЫКАВА КРУЖЭЛКА*

Як сказалі газэце «Беларус» сябры зь ініцыятыўнае групы, што памагла выдаць другую кружэлку Данчыкавых песьняў, выхад трэйцяе кружэлкі будзе залежаць галоўна ад таго, як хутка будзе раскуплены тыраж другое, каб можна было сплаціць пазыкі на ейнае выданьне. Данчык далей працуе і над свім голасам і над рэпэртуарам ды робіць поступ, як у гэтым маглі пераканацца слухачы канцэрту на 17-ай Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі.

Так што, паважаны Чытачу, выхад новае кружэлкі Данчыка залежыць ад нас з вамі, ад таго, якімі папулярызатарамі свае песеннае культуры мы з вамі будзем.

# СЯМНАЦЦАТАЯ СУСТРЭЧА

## ПРЫВІТАНЬНЕ АД ПРЭЗЫДЭНТА ЗША

Маю вялікую прыемнасьць перадаць цёплае прывітаньне ўсім удзельнікам 17-ае Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі.

Улетку сёлета Амэрыка сьвяткавала сваё Стагодзьдзе Свабоды, адзначаючы пасьвячаньне Статуі Свабоды — гэтага гордага сымбалю волі й надзеі для мілёнаў людзей па цэлым сьвеце. Беларусы — адна зь вялікага ліку групаў імігрантаў, якія, зазнаўшы савецкага ўціску, асабліва цэняць Лэды Свабоду. Вы можаце ганарыцца важнаю роляю, якую выконваеце ў пашырэньні традыцыяў беларускага народу, узбагаючы гэтым амэрыканскую культуру ды робячы Амэрыку больш жыцьцяздольнай краінай.

Няхай-жа старадаўная вера вашых бацькоў дасьць вам сілы, адвагі й надзеі ў вашых намаганьнях праводзіць справу свабоды й самавызначэньня вашае ўлюбёнае Бацькаўшчыны.

Блаславі вас Божа.

**РОНАЛЬД РЭЙГАН**



*Публіка на канцэрце (частка левае палавіны залі)*

## ГАЛАСЫ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ

**Данка Кананчук з Кліўленду**

Мы, кліўлендцы, спадзяваліся, што Сустрэча будзе ўжо адбывацца, хоць і не ў зусім скончанай, аднак ужо ў сваёй залі, але трохі напаткалі цяжкасьцяў. Спадзяёмся, што хутка, можа, усё вырашыцца. Невялічкія праблемы былі гэтаксама ў падрыхтоўцы да Сустрэчы, цяжка было зьбірацца на сьпеўкі хору: адны працуюць удзень, другія ўвечары, іншыя занятыя зь бінга.

Сама Сустрэча трохі расьцярушаная: частка імпрэзаў на Полацку, частка ў адным гатэлі, частка ў другім — праблемы для мясцовых, а пагатоў для гасьцей.

**Янка Мойсік з Рыму (Ватыканскае радыё)**

Першы раз на Сустрэчы наагул. Пазнаёміўся з многімі, пра якіх чуў, якіх нават перадаваў праз радыё, але асабіста ня ведаў. Спадзяюся, што пасьля гэтай Сустрэчы кантакты будуць большыя. Вельмі падабаецца тут, не спадзяваўся, што буду так радасна спатканы. Адно што ня мог дагаварыцца з моладзьдзю: яны ўсе паангельску гавораць, а я ня ўмею, але неяк-жа дамовіліся й дыскусія была вельмі цікавая.

Спадзяюся, што спаткаемся за два гады зноў, а тымчасам запрашаю Вас у Вечны Горад.

**Др. Раіса Жук-Грышкевіч з Канады**

Была на самай першай Сустрэчы, якая, дарэчы, адбылася зь ініцыятывы Вінцэнта Жука-Грышкевіча — гэта была яготая ідэя, каб сабрацца й сустрэцца зь сябрамі й знаёмымі, якіх ня бачыў аж ад 1939 году, калі быў арыштаваны бальшавікамі.

На мой пагляд, стрыжнём сёлетняй Сустрэчы быў сымпозіюм. Урачысты абед паказаў, як шмат было ўдзельнікаў з розных краінаў. Вельмі пазытаўнае ўражаньне зрабіў заклік а. Надсона, каб мы цанілі сваю духовую спадчыну, чаго, нажаль, ня могуць рабіць Беларусы на Бацькаўшчыне. Гэтаксама вельмі пазытыўная была інфармацыя пра зарганізаваньне Камітэту дапамогі ахвярам Чарнобыльскай катастрофы на Беларусі.

Вельмі прыемная была мастацкая частка. Моладзь — нашая надзея. Пажадана, каб маладыя трымаліся сваёй традыцыі ды ідэяў, якія пачынала «Наша Ніва».

**Праф. Карл Бануты з Кліўленду, прадстаўнік гарадзкое ўправы**

Я рады быў перадаць прывітаньне ад мэра гораду Кліўленду. Хоць Беларусы й ня самая большая група этнічнага Кліўленду, яны робяць надзвычайную працу ў рэпрэзэнтаваньні беларускай культуры. заўсёды прыемна быць на вашых сустрэчах — цяжка знайсьці больш ахвярных людзей, як у вашай групе. Наступная сустрэча ў Кліўленьдзе, мы пераконаныя, будзе адбывацца ў новым будынку беларускага грамадзкага Цэнтру на Полацку.

**Натальля Арсеньнева з Рочэстэру, штат Нью-Ёрк**

Першы раз у Полацку, даўно ўжо ня была на сустрэчах. Вельмі добра, што на Сустрэчы шмат людзей. Маю ўражаньне, што людзі вырасьлі нутрана й вонкава, культурна. Спаткала шмат знаёмых, шмат колішніх вучняў — усе яны былі добрыя хлапцы й дзяўчаты, а цяпер запраўдныя культурныя й грамадзкія дзеячы. Якая гэта радасьць — усіх успамінаць, з усімі вітацца, усіх цалаваць. Самай цікавай падзеяй на Сустрэчы быў канцэрт, асабліва выступленьне Данчыка — у яго цудоўны голас, шырокі дыяпазон, прыемны тэмбр.

**Др. Балеслаў Грабінскі**

Першы раз прыехаў на Полацк — вельмі прыемнае ўражаньне, але яшчэ добра не разгледзеўся. Бачыў выстаўку газэты «Наша Ніва». Ня думаў, што яшчэ гэтулькі захавалася нумароў яе. Прыпомніў сваю працу ў Вільні з Уласавам, выдаўцом «Нашай Нівы». Хацеў-бы зазначыць, што сёлета якраз спаўняецца 75 гадоў, як я далучыўся да першага гуртка беларускай моладзі ў Горадні, разам з Зоськай Верас, зь якой, дарэчы, яшчэ й цяпер лістуюся. Гэта важны для мяне дыямэнтавы юбілей. (Заўвага ад інтэрв'ювэра: Нажаль, нам не давялося больш пагаварыць з др. Грабінскім, але было-б цікава ведаць яготыя ўражаньні аб Сустрэчы, а таксама хацелася-б пачытаць у «Беларусе» яготыя ўспаміны пра гарадзенскі гуртох моладзі ды супрацоўніцтва з Уласавам).

**Айцец Аляксандар Надсон зь Лёндану**

У Полацку ўжо быў ня раз, а на сустрэчах ужо другі раз. Уражаньні складаныя. Прыемна, што беларускае жыве, шмат ахвярных людзей. Калі гаварыць пра Сустрэчу, дык асабліва ўразіла пашырэньне гарызонтаў, шырэйшыя зацікаўленьні, большыя духовыя кантакты зь Беларусяй. Гэта, на маю думку, найперш дзеля таго, што пашырыліся кантакты зь Беласточчынай.

Добрая ў нас моладзь, але якая зь яе будзе дапамога беларускай справе? Моладзі на Сустрэчы шмат, але, нажаль, на сымпозіюме пра «Нашу Ніву» ня было відаць ніводнага.

Агульнае ўражаньне, аднак, надзвычайнае. Вялікая колькасьць людзей як з самой Амэрыкі, гэтак і з паза яе. Асабліва прыемна мне было, што на абедзьвюх службах Божых, і праваслаўнай і каталіцкай, малітвы былі пабеларуску, што вельмі важна.

Гэткія сустрэчы вельмі карысныя, яны як-бы пераклічка, дапаўненьне адно аднаго — у тым ліку й таго, што мы робім у Лёндане: там робіцца навуковыя зборкі, а тут гэта масавае, шырокае, грамадзкае й культурнае.

**Антон і Люня Бяленісы з Чыкага**

На сустрэчах бываем вельмі часта, ды і ў Кліўленьдзе былі ўжо ня раз — хіба што на кожнай сустрэчы, якая тут адбывалася.

На Полацку заўсёды добра чуемся — прыемна тут: лес, прырода прыгожая. На гэтай Сустрэчы найбольш спадабаўся канцэрт і банкет. Вельмі прыемна, што было шмат людзей з розных асяродкаў, асабліва з-за мяжы. Цешымся, што ў людзей ёсьць яшчэ зацікаўленьне спатыкацца, зьяжджацца на гэткія сустрэчы. Ня добра адно, што праграма была трохі расьцярушаная, раськіданая па розных месцах, розных залях. Было-б пажадана, каб адбывалася ўсё ў адным месцы — мы ўжо сабе можам дазволіць на лепшыя залі, лепшыя гатэлі.

**Арнольд Акановіч зь Люізіяны**

Першы раз у Полацку наагул. Уражаньне вельмі добрае, вельмі мне падабаецца — як некалі было ў Бобрыка (фэрма ў штаце Нью-Ёрк, на якой улетку шмат хто адпачываў — рэд. «Б-са»), толькі адно ня можна ў лужыну, прабачце, у возера, скочыць. На



*Кліўлендзкі хор «Васілёк» пад кіраўніцтвам Кастуся Калошы*



*Квартэт «васількоў»: (зьлева) Валя Ягаўдзік, Галена Радзюк, Юля Вэйдэр (Радзюк) і Аніта Рудзеўская*

 





# БЕЛАРУСАЎ ПН. АМЭРЫКІ



*Публіка на канцэрце (частка правае палавіны залі)*

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

**17-ае Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў гор. Кліўленьдзе, штат Агаё, Злучаныя Штаты Амэрыкі, 30.VIII — I.IX.1986 г., прысьвечанае 100-годзьдзю Статуі Свабоды й 80-годзьдзю газэты «Наша Ніва».**

Удзельнікі 17-ае Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі гэтым выказваюць сваю перакананасьць, што свабода доступу да вывучэньня культурнае спадчыны беларускага народу павінна станавіць, неад'емны й неабходны кампанэнт культурнага працэсу на Беларусі. Газэта «Наша Ніва», якая была асноўным правадніком пашырэньня нацыянальнае сьведамасьці й росту беларускае культуры ў гістарычна важным пэрыядзе 1906-1915 гадоў, — гэта каштоўная частка спадчыны, што чакае на дэтальнае вывучэньне як крыніца інфармацыі пра разгортаньне беларускага нацыянальна-вызвольнага руху й станаўленьня ідэі беларускага дзяржаўнага будаўніцтва.

Шмат якія дзеячы культуры ў сучаснай Беларусі, бачачы бясплод-

*(Працяг на б. 6-й)*



*Па багаслужбе перад царковой Жыровіцкае Маці Божае*



*Ньюёркаўцы з ансамблю «Васілёк» у «Карагодзе»: (зьлева) Галіна Бахар, Віктар Тур і Дарота Рыжы*

сустрэчах ужо быў.

Гэтая Сустрэча вельмі цікавая, было адно далёка мне ехаць. Шмат прыгожых дзяўчат, шкада, што замаладыя для мяне.

Арганізацыя Сустрэчы добрая, аднак шкада, што трохі раськіданая па розных месцах праграма. Добра, што хоць канцэрт і банкет у нядзелю былі блізка ад гатэлю, дзе амаль усе затрымаліся.

Сустрэўся зь людзьмі, зь якімі ня бачыўся 20 гадоў. Сустрэчы такія варта рабіць, і кожныя два гады — добры тэрмін.

### Зоя Смаршчок з Бэльгіі, з сынам Петрыкам

У Амэрыцы ўжо была, але на Полацку і наагул на сустрэчах першы раз. Уражаньне ад Полацку вельмі дадатнае: вельмі прыгожая мясьціна, вялікія магчымасьці, каб разгарнуць нешта шырокае — асабліва важна трымаць гэта для моладзі. Аб Сустрэчы ўражаньні як найлепшыя. Гэтак радасна быць сярод сваіх людзей! Асабліва прыемная і на ўзроўні была мастацкая частка — не адно сэрца ўскалыхнула. Надзвычай добрая была танцавальная група — ня ўступае прафэсійным групам. Хор, як для аматарскага, вельмі прыемны й рэпэртуар цікавы. Што да Данчыка, дык слоў не хапае, каб перадаць уражаньне. Чула яго на плытцы, але было надзвычайна пабачыць і паслухаць яго самога.

### Данчык Андрусышын зь Нью-Ёрку

На сустрэчах я ўжо вэтэран і ў Полацку ўжо, здаецца, трэйці раз. На сёлетняй Сустрэчы ўсё адбылося, як я й спадзяваўся, добра. Было прыемна зноў спаткацца з кліўлендцамі. Шкада, што Сустрэча ўжо амаль канчаецца. Учора, як прыехаў, дык трохі расчараваўся, бо выглядала нібы было мала людзей, але пазьней на забаве й сяньня на банкеце пабачыў, што людзей сабралася запраўды шмат. Чуў, што зьбіраюцца будаваць новы будынак на Полацку — спадзяюся, што там будзе добрая акустыка, гэта мяне, як сьпевака, цікавіць. Маё пажаданьне, каб на сустрэчы прыяжджала як мага больш людзей. Мне вельмі прыемна, што мяне так добра прыймалі, што падтрымалі мяне ў выданьні кружэлкі.

### Аляксандар Шэршуновіч з Канады

У Канадзе я ўжо тры гады, прыехаў зь Беласточчыны. Прыехалі сюды на Сустрэчу першы раз. Вельмі прыемнае ўражаньне ад Полацку — як куточак Беларусі. Прыемная неспадзеўка была, што так шмат моладзі. Прыехаў сюды з маці і братам Кастусём, яны толькі месяц як прыбылі зь Беласточчыны мяне адведаць. Ня бачыў іх ужо якіх восем гадоў. Вельмі мне прыемна, што ім давялося пабачыць ня толькі Канаду, але й Амэрыку ды пабыць на такой прыгожай Сустрэчы.

### Марыя Шэршуновіч зь Беласточчыны

Ніколі й ня марыла й ня сьніла, што буду ў такой мясцовасьці і пабачу столькі сваіх людзей. Як прыеду дахаты, будзе чым пахваліцца — прывязу нават на памятку істужку зь Беларускай Сустрэчы.

Я ўжо дома слухала Данчыка па радыё ды памылкова думала, што ён з Саюзу, так ён добра сьпявае. Цяпер пабачыла яго самога. Буду мець чым пахваліцца сваім сыном, што бачыла сьпевака. Мой муж у Пушчы нарадзіўся, там вырас і пастарэў, то яму было асабліва прыемна слухаць песьню Данчыка пра Белавежу. Уся нашая сям'я захопленая Данчыкам.

### Кастусь Шэршуновіч зь Беласточчыны

Вельмі прыемнае ўражаньне. Не спадзяваўся, што ў Амэрыцы будзе столькі беларускага, больш як у нас там на бацькаўшчыне. Усё ўразіла: і канцэрт і забава — наагул усё. Маё асабістае жаданьне, каб мастацкая частка была большая. На канцэрце падабаліся і хор і танцы. Мне раней падабаліся ўкраінскія танцы, што бачыў у Канадзе, але як пабачыў беларускія, дык украінскія нават трохі пабляднелі. Можна такія выступы рабіць на паветры, як робіцца ў нас на Беласточчыне.

### Славік Шабовіч з Тэхасу

Бываў ужо на сустрэчах. Вельмі добрае ўражаньне ад гэтай Сустрэчы. Пабачыўся зь сябрамі, калегамі й знаёмымі, якіх ня бачыў ужо шмат гадоў. Гэткія сустрэчы падымаюць дух. Быў вельмі цікавы сымпозіюм: дабра арганізаваны й шмат карыснай інфармацыі. Таксама спадабалася забава: шмат маладых — шчырасьць, непасрэднасьць. Банкет і канцэрт былі вельмі прыемныя — была нагода пагаварыць. Полацак мне таксама вельмі падабаецца.

### Ян Пятроўскі з Флярыды

Агульнае ўражаньне ад Сустрэчы вельмі добрае. Пазытыўна, што царква, у якой я быў першы раз, сталася пунктам кансалідацыі паміж беларускіх праваслаўных — царква стаецца ўсё больш беларускай. Цешыць тое, што сярод людзей, адказных за арганізацыю грамадзкага жыцьця, існуе выразная тэндэнцыя да праводжаньня падобных імпрэзаў. Ёсьць надзея, што ў прышласьці сустрэчы будуць яшчэ больш удалыя. Былі прапановы, каб на будучыню пашыраць і паглыбляць духовы зьмест гэткіх сустрэчаў.

### Кастусь Вайцяхоўскі з Каліфорніі

Першы раз на Сустрэчы. Уражаньне цудоўнае, сэрцакранальнае. Наводзіць і смутак і радасьць з розных прычынаў. Арганізацыя была добрая, паміма невялічкіх недахопаў. Дзьве рэчы, якія асабліва кранալі сэрца й выклікалі сьлёзы ўзрушанасьці — гэта прыгожая служба ў царкве ды канцэрт.

Спаткаўся са знаёмымі, якіх даўно ня бачыў. Успаміны мінулых часоў. Невялічкую заўвагу маю: шмат, на маю думку, аддавалася ўвагі прошласьці — ці ня топчамся мы ўсё на старым? Мы ўжо дамагліся таго, каб «людзьмі звацца», мы ўжо гэтага дабіліся, цяпер мы мусім дамагацца дзяржаўнасьці, як і ўсе. Думаць трэба пра будучыню, але ня траціць энэргію на мінулае. Прыцягваць моладзь, даваць ім адказныя пазыцыі, функцыі.

### Пятро Барысік з Бэльгіі

Першы раз у Амэрыцы наагул. Уражаньне аб Амэрыцы надзвычайна добрае. Я проста прыемна зьдзіўлены быў, што адміністрацыя амэрыканскага пашпартнага бюро так спраўна, бязь ніякіх затрымак, за нейкіх 40 хвілін выставіла мне візу на часовы, чатырохгадовы пабыт у Амэрыцы. Я за гэта шчыра ўдзячны ўладам.

Спаткаўшы тут гэтулькі старых знаёмых, я, здаецца, падрос на колькі цэнтымэтраў. Усё мне тут вельмі спадабалася. Што найбольшае ўражаньне пакінула, дык гэта міласьць нашых людзей. Добрае ўражаньне засталося ад усіх паседжаньняў і імпрэзаў, ад царквы.

Пры гэтай нагодзе заклікаю ўсіх суродзічаў, што па-за Амэрыкай, наведаць Амэрыку, пазнаць яе, спаткацца са знаёмымі — гарантую, ня будуць шкадаваць.

**Апытаньне правяла Зора Кіпель**

 

## *РЭЗАЛЮЦЫЯ*

*(Працяг з б. 5-й)*

насьць культурнага працэсу ў рэспубліцы, пачынаюць гаварыць усё намагальней пра патрэбу звароту да бліжэйшае й глыбейшае мінуўшчыны свайго народу ў шуканьні арыгінальнасьці, самабытнасьці й трывалкасьці створаных цяпер культурных вартасьцяў. У гэтай арыентацыі на духовыя скарбы свайго народу дзеячы гэтыя заслугоўваюць на ўсялякае падтрыманьне ды ўхвалу. Мы выказваем спадзяваньне, што газэта «Наша Ніва» й нашаніўскія дзеячы ня будуць абмінутыя ўвагай сучасных і будучых дасьледнікаў, мастакоў, пісьменьнікаў, публіцыстаў. У некаторых вялікіх бібліятэках і архіўных сховішчах Захаду, упаасобку Злучаных Штатаў Амэрыкі й Канады, ёсьць каштоўныя кніжныя фонды й дакумэнтальныя матар'ялы, важныя для вывучэньня нашаніўскага пэрыяду беларускае гісторыі. Арганізатары 17-ае Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі — Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Згуртаваньне Беларусаў Канады, а таксама Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў ЗША і Канадзе — выказваюць сваю гатовасьць паспрыяць матар'яльна й маральна кожнаму дасьледніку ў вывучэньні «Нашае Нівы» ды пашырэньні вынікаў іхнае працы.

Удзельнікі 17-ае Сустрэчы заклікаюць беларуска-амэрыканскую й беларуска-канадзкую моладзь, асабліва студэнтаў гуманістыкі, зацікавіцца вывучэньнем драматычнага пэрыяду беларускае гісторыі, якім былі гады выхаду газэты «Наша Ніва», каб гэтым вывучэньнем узбагаціць культуру краёў новага пасяленьня Беларусаў у духу прывітаньня 17-ай Сустрэчы ад прэзыдэнта Злучаных Штатаў Рэйгана. Справа свабоды й самавызначэньня ўлюбёнае Бацькаўшчыны-Беларусі, пра якую дбалі нашаніўцы ды пра якую гаворыць Прэзыдэнт Рэйган у прывітаньні 17-ай Сустрэчы, залежыць у вялікай меры ад таго, наколькі глыбака будзе вывучаная культурная спадчына Беларусі ды наколькі шырака веда гэтае спадчыны станецца кампанэнтам далейшага культурнага працэсу на Беларусі, часткаю сьведамасьці беларускага народу.

Кліўленд, штат Агаё, ЗША.
31 жніўня 1986 г.

## 7-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ АЎСТРАЛІІ

Арганізацыйны Камітэт 7-ай Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі і Выканаўчы Камітэт Фэдэральнай Рады падаюць да ведама, што Сустрэча будзе прысьвечана тэме «Будучыня Беларускай Эміграцыі й Беларусаў у Аўстраліі ды ў Вольным Сьвеце» і адбудецца ў Мэльбурне, Вікторыя, ад 6-га да 10-га студзеня 1987 году. Устаноўленая гэткая праграма:

**Аўторак, 6 студзеня** — прыезд і закватэраваньне гасьцей.

**Серада, 7-га** — 9-я гадз. раніцы: калядная багаслужба ў мясцовай царкве БАПЦ у Яравіле.
3-я гадз. пп.: у Беларускім Доме ў Браўбруку адкрыцьцё Сустрэчы; рэфэрат на тэму «Беларуская эміграцыя і ейная будучыня». Сяброўскі пачастунак.

**Чацьвер, 8-га** — 3-я гадз. пп.: канцэрт у Украінскай залі ў Ардзіры. Па канцэрце супольная вячэра.
6-я гадз.: вечарына (да 12-й уначы).

**Пятніца, 9-га** — Пікнік цэлы дзень у Брымбэк Парку, Кійлёр.

**Сыбота, 10-га** — 10-я гадз. раніцы: нарады прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў Фэдэральнай Рады.
3-я гадз. пп.: супольны пачастунак.
Закрыцьцё Сустрэчы й разьвітаньне.

Шчыра запрашаем усіх сяброў Фэдэральнай Рады, сяброў іншых беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі, замежных гасьцей і мясцовых Беларусаў Мэльбурну.

Закватэраваньне усім гасьцём будзе забясьпечана. У гэтай справе просім зьвяртацца на адрас: A. Hrusza, 55 Marion Street, Altona North, 3025. Australia. Tel.: (03) 391-4620.

**Арганізацыйны Камітэт 7-ай Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі**

## ДАПАМОГА БЕЛАРУСАМ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ
### ў будаваньні цэркваў і этнаграфічнага музэю

Ініцыятыўная група нашых суродзічаў у Нью-Брансьвіку, штат Нью-Джэрзы, зьвярнулася з заклікам да беларускага грамадзтва на Чужыне аб дапамозе Беларусам Беласточчыны ў будове праваслаўнага сабору Сьв. Духа ў Беластоку, аднаўленьні зьнішчанага вайной праваслаўнага манастыря й царквы ў Супрасьлі ды арганізаваньні беларускага этнаграфічнага музэю ў Гайнаўцы. У закліку, падпісаным сп. сп. Пётрам Кажурам, Юркам Азаркам і Львом Стагановічам, кажацца: «Мясцовае насельніцтва Беласточчыны выяўляе немалую ахвярнасьць на будову цэркваў і музэю, але без дапамогі суродзічаў у вольным сьвеце яны ня здолеюць зрэалізаваць свае пляны».

Дарэчы, як сказана ў рапарце Дзяржаўнага Дэпартаманту ЗША аб выкананьні Гэльсінкаўскіх пагадненьняў, Беларусы ў Польскай Народнай Рэспубліцы вядуць сваю нацыянальна-культурную працу выпучна ўласнымі сіламі, без дапамогі з боку польскага ўраду (гл. «Беларус» № 329).

У закліку ньюбрансьвіцкае ініцыятыўнае групы просіцца слаць ахвяры для пабудовы сабору Сьв. Духа й манастыра-царквы ў Супрасьлі на адрас: Saint Mary of Zyrovicy, BOAC, 9 River Road, Highland Park, N.J. 08904, U.S.A.

Ахвяры на беларускі этнаграфічны музэй у Гайнаўцы слаць на адрасы:

**Mr. Peter Kazura**
**215 Harper St.**
**Highland Park, N.J. 08904**
**U.S.A.**

або **Mr. Lew Stahanovich**
**17 Guilden St.**
**New Brunswick, N.J. 08904**
**U.S.A.**

## *ДАНЧЫКАВЫ ПЕСЬНІ: «ЗНАК ПАПУЛЯРНАСЬЦІ»*

Зь Беласточчыны ў Амэрыку ў прыватным лісьце напісалі: «Данчыкавы песні, ягонае сьпяваньне можна пачуць у нашым краі нават у падарожным аўтобусе, зь нейкага і нейчага падарожнага магнітафону. Зьявіўся свайго роду чорны рынак на касэты зь ягонымі песьнямі, а гэта ўжо пэўны знак папулярнасьці».

**Студэнтка з Варшавы** ў лісьце ў Амэрыку напісала: «Цяпер я нічога больш ня слухаю, апрача беларускіх песень у выкананьні Данчыка. Яны надзвычайныя, фантастычныя. Захапляюся іх мэлядыйнасьцю й чароўнасьцю, прыгажосьцю голасу й чысьцінёй беларускай мовы песьняра. Толькі пазайздросьціць. Калі слухаю іх, перада мною вырастаюць беларускія вёскі Беласточчыны, дзе я ўжо вельмі даўно ня была».

## АБВЕСТКА

Арганізацыйны Камітэт 7-ай Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі ў Мэльбурне выдаў кубак, прысьвечаны 7-ай Сустрэчы. Кубак прыгожа аздоблены мастаком Ул. Шнэкам, у двух колерах (чорна-чырвоны) зь беларускімі народнымі ўзорамі й Пагонямі ды зь беларускім і ангельскім надпісамі: «Мэльбурн — 7-ая Сустрэча Беларусаў Аўстраліі».

Цана сувэніру: 7 аўстрал. даляраў. Цана ў замежных краінах: 5 амэрыканскіх дал., плюс кошт паштовае перасылкі.

Кубак можна заказаць, зьвяртаючыся на адрас: 55 Marion Street, Altona North, 3025. Australia.

Чэкі і паштовыя пераводы выстаўляць на: A. Hrusza (старш. Арг. К-ту).

**Арганізацыйны Камітэт 7-ай Сустрэчы**

## ПАДЗЯКА

Шчыра дзякую ўсім маім сябром, прыяцелям, супрацоўнікам і рэдакцыі газэты «Беларус» за памяць, прывітаньні й добрыя пажаданьні з нагоды маіх 80-х угодкаў ад народжаньня.

**Мікола Скабей**

## «НІЗКАЯ ТАЛЕРАНТНАСЬЦЬ» ПАЛЯКОЎ

На супольным паседжаньні кіраўнікоў Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства з прадстаўнікамі ваяводзкіх і партыйных уладаў, якое адбылося ў Беластоку 26 чэрвеня сёлета («Ніва, 27.VII), пасол сойму Гертруда Орляч прызнала, што «аб валікай і карыснай працы БГКТ мала гавострыцца й мала вядома ў нашым (Беластоцкім — рэд. «Б-са») ваяводзтве».

Соймавы пасол Аўген Чыквін, ёнжа старшыня Беларускага аддзелу Хрысьціянскага Грамадзкага Аб'еднаньня, гаворачы аб тым, чаму Беларусы ў горадзе ня трымаюцца свае мовы, выказаў гэткія меркаваньні:

«У Беластоку нізкая талерантнасьць у грамадзтве, зьвязаная зь веравызнаньнем. Якраз гэта ўзьдзейнічае і на нацыянальныя адносіны».

Падаючы пра выказваньне пасла Чыквіна, газэта «Ніва» піша: «Беларусы затойваюць сваё веравызнаньне і нацыянальнасьць, бо гэтак ім выгадней і спакайней жывецца й працуецца».

«Бацькі й дзеці, спазнаўшы на сабе няпрыхільныя адносіны, — тлумачыць газэта, — ня хочуць, каб у школе ведалі, што яны зь беларускіх сем'яў і каб па гэтай прычыне зь іх няпрыемна жартавалі ці дакаралі іхныя аднакласьнікі. Адносіны да свайго роднага ў Беластоку фармуе сытуацыя.

На тым-жа паседжаньні намесьнік старшыні галоўнае ўправы БГКТ Кастусь Майсеня жаліўся, што на культурную дзейнасьць у БГКТ не стае грошай.

## *ЛІК БЕЛАРУСАЎ У ПНР*

Паводля Анджэя Врублеўскага ў варшаўскім тыднёвіку «Пшэглёнд Тыгоднёвы» (1986, № 4), у Польскай Народнай Рэспубліцы сёньня жыве 350 тыс. Украінцаў, 300 тыс. Беларусаў, 15 тыс. Гэбрэяў, 7 тыс. Літоўцаў ды па колькі тысячаў прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў.

Усе мяншыні, піша аўтар, жывуць расьkідана, за выняткам Беларусаў, бальшыня якіх жыве на Беласточчыне (звыш 30% усяго жыхарства тэрыторыі).

## НОВЫЯ АБРАДЫ: НЕЎКАРАНЁНАСЬЦЬ

Месячны (цікавы й багата ілюстраваны) часапіс «Мастацтва Беларусі» завёў ад сёлетняга 5-га нумару новую рубрыку «Традыцыі і сучаснасьць». Мэта рубрыкі — абмяркоўваць і пашыраць сучасную савецкую атэістычную абраднасьць. Абраднасьць гэтая, як прызнае рэдакцыя часапісу, «ня здолела сьцьвердзіцць сябе ў 'адлітых', закончаных формах, якія-б перадаваліся з пакаленьня ў пакаленьне, як тое было ў мінулым».

## *САЦЫЯЛЬНЫЯ КАРАНІ РЭЛІГІЙНАСЬЦІ Ў СССР*

Паводля заступніка дырэктара савецкага Інстытуту Навуковага Атэізму пры ЦК КПСС Эдуарда Філімонава, які выступаў на савецкім тэлебачаньні (у новай сэрыі праграмаў пад заг. «Рэлігія й палітыка»), некаторыя аспэкты савецкае рэчаіснасьці стымулююць зацікаўленьне рэлігіяй. Да гэткіх аспэктаў Філімонаў залічыў сацыяльную няроўнасьць, цяжкую фізычную працу ды кватэрныя цяжкасьці. (RL 198/86, p.6)

## НА ДАПАМОГУ БЕЛАРУСАМ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

У другой палове леташняга й першай палове сёлетняга году наступныя асобы склалі ахвяры (прозьвішчы падаюцца ў альфабэтным парадку): А. Адамовіч — 210 дал., Ю. Андрусышын — 50 дал., Ф. Бартуль — 10, Р. Галяк — 20, М. Грэбень — 10, М. Заморскі — 5, Я. Запруднік — 13, Я. Кахаsuccеўская — 30, В. Кіпель — 10, Л. Корчык — 20, В. Мельяновіч — 20, А. Міцкевіч — 10, У. Набагез — 200. Е. Норык — 50, Н. О. — 20, П. Орса — 20, А. Орса-Рамана — 114, Ул. Русак — 50, Л. Стагановіч — 60, В. Станкевіч — 5, З. Станкевіч — 25, Р. Станкевіч — 75, А. Шукелайць — 66, Я. Юхнавец — 15.

У гэтым часе было выслана 17 пачак і 9 грашовых перасылак.

Усім ахвярадаўцам шчырая падзяка ад нашых суродзічаў на Беласточчыне.

**Ю. Андрусышын**

## СЬВ. † ПАМ. ЯЎГЕНЬ СІТНІК

Сьвятар БАПЦ. Нарадзіўся 4.VII.1927 г. ў в. Галінка 49 км. ад Слоніма, памёр 29.VIII.1986 г. ў Адэляйдзе, Паўдзённая Аўстралія. Пахаваны на Чэлтэнгаймскіх могілках. Пакінуў у смутку жонку Марыю, дачку Жэню й сына Аляксандра, якім выказваюць шчырыя спачуваньні

**Парафіяне прыходу БАПЦ у Адэляйдзе**

## СЬВ. † ПАМ. КАЦЯРЫНА АБАБУРКА

Матушка Мітрафорнага Пратаярэя а. Яна Абарукі. Нарадзілася 4.XI.1921 г. ў в. Морач Клецкага павету, памерла ў Манчэстэры ў Ангельшчыне 29.VIII.1986 году. Пахаваная на манчэстэрскім могільніку Саўт. Глыбокія спачуваньні Мітр. Прт. а. Яну Ababурку выказваюць

**Сябры Царкоўнай Рады й Вернікі БАПЦ**

## СЬВ. † ПАМ. МАРЫНА ЗАМОРСКАЯ

Нарадзілася 15.VII.1898 г. на Гомельшчыне, памерла ў Нью-Ёрку 21.VI.1986 году. Пахаваная на могільніку ў Спрынг Валей, штат Нью-Ёрк. Выказваем шчырае спачуваньне сям'і сп. Міколы Заморскага і ўсім сваяком Нябожчыцы з прычыны сьмерці Маці, Бабулі й Прабабкі.

**Рэдакцыя «Беларуса».**

# АЎСТРАЛІЙСКІ ПІСЬМЕНЬНІК ПРА БЕЛАРУСАЎ

*A Family Madness, by Thomas Keneally (Томас Кенэлі. Сямейнае вар'яцтва). Раман. Нью-Ёрк, выд. Саймон энд Шустэр; Таронта, выд. Лестэр энд Орпэн Дэніс; Лёндан, Сыднэй, выд. Годдэр энд Стаўтон.* 1985. 315 бб.

Томас Кенэлі — аўстралійскі пісьменьнік, аўтар больш як дзесятка раманаў на самыя розныя тэмы. Раман «Сямейнае вар'яцтва» напісаны часткава на «беларускім» матар'яле. Нажаль, матар'ял гэты зачэрпнуты з памыйніцы. У аўтарскай анатацыі да кнігі чытаем: «Аўтар хацеў-бы адзначыць уклад бясцэнных зьвестак пра Беларусь, зьмешчаных у кнізе 'Беларускі сакрэт' Джона Лофтуса».

Сюжэт раману Кенэлі даволі просты. Аўстралійскі прафэсіянальны спартсмэн Дэлэні (рагбі) ўблытаўся ў справы сям'і «новых Аўстралійцаў» Кабэляў, радавод якіх ідзе зь Беларусі. Бацька «новага Аўстралійца» Руды Кабэля Станіслаў Кабэльскі ў часе апошняе вайны быў шэфам паліцыі ў беларускім мітычным акруговым горадзе Старовічах ды памагаў там эсэсаўцам вынішчаць Гэбрэяў, каб здабыць «незалежнасьць Беларусі». У Аўстраліі-ж Станіславаў сын Руды (хрышчонік Радаслава Астроўскага) ды ягоныя два сыны й дачка заснавалі вартаўнічую кампанію. Дэлэні, шукаючы сабе дадатковых заработкаў, наняўся працаваць у Кабэляў, закахаўся ў Кабэляву дачку Даніелю.

Сам-жа Руды Кабэль, перажыўшы некалі ў дзяцінстве жахі вайны, рыхтуецца цяпер разам із сваімі дарослымі дзецьмі сустрэць тое, што яны ўсе завуць «хваляй» — нешта наводля біблейнага Армагэдана, канца цывілізацыі. Дзяцей сваіх Руды Кабэль, чалавек вялікай сілы волі, узгадаваў у духу ляяльнасьці й сямейнае зьнітаванасьці. Кабэлі нажылі аграмадны арсэнал зброі, назапасілі амуніцыі ды купляюць сабе маемасьць на адпаведным адлюдзьдзі, каб бараніцца ад гэнае «хвалі»... Раман, праўда, канчаецца ня «хваляй», а масавым забойствам. Ды ня гэта ў кнізе найважнейшае.

Як элемэнт сюжэту, у кнігу ўведзеныя: запіскі Станіслава Кабэльскага пра падзеі на Беларусі ў часе вайны, «гісторыя сям'і Кабэльскіх», якую напісаў па вайне ўжо Станіславаў сын Руды, а таксама лісты, насычаныя «гістарычнымі фактамі», старэйшае сястры Руды, якая па вайне жыве ў Парыжы.

У запісках Станіслава Кабэльскага фігуруюць гэткія постаці, як Астроўскі, Абрамчык, Кушаль, Грынкевіч, а таксама фікцыйныя пэрсанажы.

Калі аўстралійскія рэаліі ў Кенэлі пададзеныя з добрым веданьнем рэчаіснасьці, дык «беларускі» аспэкт раману, базаваны на Лофтусавай баламутні, перапоўнены, як кажуць нашыя суседзі, «гэцамі і бздурамі». Матывацыі ўчынкаў і раскрыцьця духоўнага сьвету гэных Кабэльскіх у Кенэлі гэтак і ня выйшла.

Раман «Сямейнае вар'яцтва» шырака рэцэнзаваўся ў заходнім друку. Пра яго пісалі: амэрыканскія часапісы «Тайм» (31.III), «Ньюзўік» (31.III), «Нью-Ёркер» (19.V), лёнгайлендзкая газэта «Ньюздэй» (23.II), «Нью-Ёрк Таймс» (16.III, «НЁТ Бук Рэв'ю»), тарантаўская «Глоўб энд Мэйл» (3.V), а таксама лёнданская «Дэйлі Мэйл» (3.X.85).

Даючы пераважна прыхільную ацэну раману Кенэлі, часамі з даволі крытычнымі заўвагамі што да ягонае мастацкае вартасьці (асабліва крытычна выказаўся «Нью-Ёркер»), «беларускі» бок раману быў бяскрытычна пераказаны бальшынёй рэцэнзэнтаў. Гэтак было і ў выпадку з Лофтусавай кнігай.

Я правёў невялікі экспэрымэнт у дачыненьні да кнігі Кенэлі: паслаў у рэдакцыю тарантаўскай газэты «Глоўб энд Мэйл» для будучага рэцэнзэнта раману Кенэлі даўгую рэцэнзію на Лофтусаў опус, якую напісаў праф. Дж. Дынглі (у лёнданскім «Журнале беларусаведы», т. V, № 3-4) і сваю рэцэнзію на Лофтуса п. заг. «Ці Беларусы змагаліся супраць Амэрыканцаў», што была зьмешчаная ў «Беларусе» і ў «Зважай» паангельску. Калі ў «Глоўб энд Мэйл» зьявілася два тыдні пазьней рэцэнзія на раман Кенэлі, дык ейны аўтар Керы Ўайт ні словам не згадаў пра ўдзел Кабэльскага ўнішчэньні Гэбрэяў на Беларусі. Даючы агульную ацэну рамана, рэцэнзэнт напісаў:

« 'Сямейнае вар'яцтва' — твор з напружаным дзеяньнем, вымагае завойстранае ўвагі ў сваіх першых разьдзелах, але за высілак дае ўзнагароду — высака арыгінальны й турбуючы вобраз апантанасьці ды ейнага ўплыву на чалавечы дух».

**К. Акула**

## «ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЯ ПРЫРОДЫ БЕЛАРУСІ»

Менскае выдавецтва Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя завяршыла выданьне 5-томавае «Энцыкляпэдыі Прыроды Беларусі». Паводля газэты «Зьвязда» (24.VIII.86), «аналягічных буйных работ няма ні ў адной рэспублікі Савецкага Саюзу». Усіх у энцыкляпэдыі больш за 15 тыс. артыкулаў. Выданьне багата ілюстраванае.

«Энц. Прыроды Беларусі» — найбольш поўны збор інфармацыі аб расьлінным і жывёльным сьвеце рэспублікі, аб нетрах, рэльефе, рэчках, вазёрах, глебах, ахове прыроды, а таксама аб турызьме.

У канцы пятага тому зьмешчаныя расейска-беларускі й лацінскі слоўнікі-паказьнікі назваў расьлін і жывёлаў.

Тыраж выданьня — 10 тыс. экзэмпляраў.

# УШАНАВАНЬНЕ ПАМЯЦІ ГРАМАДЗКАГА ДЗЕЯЧА МАГІСТРА ПРАВА А. КАЛОДКІ

### МЭЛЬБУРН, АЎСТРАЛІЯ

Замест вянкоў на магілу сьв. пам. Аляксандра Калодкі склалі ахвяры на Беларускую Бібліятэку й Музэй у Лёндане:

| | |
|---|---|
| М. Скабей .......... аўстрал. дал. | 50 |
| М. Нікан | 20 |
| М. Яўневіч | 20 |
| Л. Яцкевіч | 20 |
| А. Груша | 40 |
| У. Карп | 10 |
| А.і В. Русак | 20 |
| В. Каролік | 20 |
| М. Кулага | 20 |
| В. Бачынская | 20 |
| С.і Ю. Чэховы | 10 |
| Заяц | 10 |
| Шэко | 2 |
| У. Сідлярэвіч | 20 |
| Выканаўчы Камітэт Фэдэральнай Рады | 20 |
| Г. Шайпак | 20 |
| П. Гуз | 2 |
| М. Субоч | 20 |
| Стасевіч | 20 |
| З. Кадняк | 10 |
| Яшчанка | 5 |
| Тэрэшкевіч | 20 |
| М. Субоч | 10 |
| РАЗАМ | 409 |

Ад імя адміністратара Бібліятэкі а. Надсона і свайго ўсім ахвярадаўцам шчыра дзякуем.

**Г. Шайпак і М. Скабей — зборшчыкі ахвяраў.**

## БЕЛАРУСІКА Ў ДРУКУ

**«Зважай» № 3 (43),** верасень 1986. Зьмест: К. Акула — А дзе наш голас? (пра Чарнобыль); Я. Барэйка — Гістарычна-батальны жанр у беларускім выяўленчым мастацтве XIX ст. (заканчэньне); В. С. — Запраўдны статус нерасейскіх народаў СССР; В. Сянькевіч — Аб удакладненьні даты й году нараджэньня й сьмерці Ф. Скарыны; хроніка.

**У папулярным амэрыканскім і міжнародным часапісе «Рыдэр'с Дайджэст»** (жнівень 1986, б. 9) аўтар артыкулу «Славяне паміж нас» Майкл Новак, выдатны філёзаф, Амэрыканец славацкага паходжаньня, называе Беларусаў сярод найлепш ведамых этнічных групаў Амэрыкі. Новакаў артыкул зьмешчаны ў рубрыцы «Народы Амэрыкі», у якой разглядаецца ўклад розных этнічных групаў у разбудову Злучаных Штатаў.

**У часапісе «Бюлетэнь і паведамленьні Асацыяцыі Ўнівэрсытэцкіх дасьледчых бібліятэкаў»**, які выходзіць у Нью-Ёрку (№ 2, 1986), зьмешчаны на вокладцы фрагмэнт з часткі Бібліі Ф. Скарыны (праскае выданьне 1518 г.), якая перахоўваецца ў Нью-Ёрскай Публічнай Бібліятэцы. У анатацыі да рэпрадукцыі сказана: «Францішак Скарына — беларускі першадрукар, пераклаў у старую беларускую мову й выдрукаваў ад 1517 да 1519 году ў Празе 23 кніжкі Бібліі. Выданьні Скарыны былі першыя сярод усходніх Славянаў і часта называліся беларускімі эльзэвірамі» (кнігі выдатнае якасьці).

У часапісе даецца таксама інфармацыя аб разбудове калекцыяў беларускіх кніжак у бібліятэках ЗША.

**Камэнтатар канадзкае газэты Sunday Sun (4.V.86)**, атрымаўшы ліст ад сп. К. Акулы пра ядзерную аварыю ў Чарнобылі й блізіню Беларусі да месца выпадку, пішучы пра хлусьлівасьць Крамля, згадаў таксама й Беларусь у ліку крёў, пагвалчаных Масквою.

### СПАЧУВАНЬНЕ

Сям'і Франка й Алы Рамана выказваем шчырае спачуваньне з прычыны сьмерці Франкавага бацькі сьв. пам. Джэнары Рамана, які памёр 21-га жніўня сёлета на 92-ім годзе жыцьця. Вечная памяць.

**Рэдакцыя «Беларуса».**

## З КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ НА БЕЛАРУСІ

**Памерла Канстанцыя Буйла** (нар. ў 1899 г.) — аўтарка вершу «Люблю наш край», які, пакладзены на музыку М. Равенскім, набыў характар народнае песьні. У савецкім друку пра М. Равенскага, як аўтара музыкі, маўчаць, паколькі кампазытар Равенскі памёр палітычным эмігрантам (у Бэльгіі ў 1953 г.). Нэкралёг па сьв. пам. К. Буйле зьмешчаны ў газэце «Літаратура і Мастацтва», 13.VI.

**Ленінская прэмія Васілю Быкаву** прызнаная за аповесьць «Знак бяды». У аповесьці апісваюцца паралельна падзеі ваеннага часу й рэпрэсіі беларускага сялянства за часамі калектывізацыі, паказваюцца сацыяльна-палітычныя карані г. зв. «калябаранцтва» ў часе нямецкае акупацыі Беларусі ў 1941-44 гадох.

**Беларуская мова на Далёкім Усходзе** перахоўваецца й дасюль, як гэта відаць зь біяграфіі памерлага нядаўна ў 37-гадовым веку беларускага кампазытара Віктара Помазава. «Некалькі гадоў сям'я Віктара жыла на Далёкім Усходзе (бацька быў кадравым ваенным) і хлопчык зь цікавасьцю прыслухоўваўся і ўбіраў у сябе беларускую гаворку, якая гучала дома і на якой размаўлялі з бацькамі патомкі перасяленцаў-Беларусаў, што жылі там цэлымі вёскамі і захавалі родную мову». («ЛіМ», 23.V.86).

### ПРА ЯНКУ КУПАЛУ

Кніга др. Ст. Станкевіча пра Янку Купалу выйшла з друку й рассылаецца ахвярадаўцам і перадплатнікам. Яе можна набыць у рэдакцыі «Беларуса». Цана: 10 даляраў.

## «СУСТРЭЧЫ» БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ У ПНР

Гэтага раз на год выдаванага часапісу выйшла ўжо чатыры нумары (у кожным нумары па 20-24 старонкі машынапіснага друку). Часапіс (які называе сябе таксама бюлетэнем) ілюстраваны фатаздымкамі й рысункамі (карыкатурамі).

Не зважаючы на саматужную тэхніку выданьня й мноства правапісных ды моўных памылак, публікацыя гэтая цікавая сваім зьместам, тэй інфармацыяй, якую яна нясе пра жыцьцё й нацыянальна-арганізацыйныя справы беларускіх студэнтаў у Польскай Народнай Рэспубліцы.

Цікавую эвалюцыю прайшлі «Сустрэчы» ў афіцыйным тлумачэньні, хто іх выдае. Першы нумар, у якім часткава ўжывалася польская мова (дый загаловак быў яшчэ польскі — «Спотканя») быў выданьнем Галоўнай Рады Згуртаваньня Польскіх Студэнтаў. Тая-ж самая Рада была выдаўцом і другога нумару (за 1984 год), загаловак якога быў ужо выпісаны пабеларуску, а ў зьмесьце польскаю моваю быў зьмешчаны ўсяго адзін матар'ял.

Трэйці й чацьверты нумары «Сустрэчаў» выйшлі ўжо выключна пабеларуску, прычым апошні, сёлетні выпуск, мае ўжо й новага выдаўца — Раду Культуры Беларускіх Студэнтаў, і падзагаловак — «Часапіс беларускіх студэнтаў у Польшчы». Ранейшыя тры нумары азначаліся, як «часапіс студэнтаў нацыянальных меншасьцей». «Сустрэчы» як орган друку, гэткім парадкам, беларусізаваліся.

Што да зьместу публікацыі, дык прысьвечаная яна перш-наперш справам студэнцка-грамадзка-беларускім: таварыскае жыцьцё, некаторыя ідэйныя праблемы, пытаньні нацыянальнага ўсведамленьня. Зьмяшчаюцца ў «Сустрэчах» і літаратурныя творы, але асаблівым узроўнем яны не адзначаюцца.

Сёлетні выпуск «Сустрэчаў» цікавы зваротам ягоных выдаўцоў да постаці беластаччаніна Кастуся Каліноўскага ды ягонае падпольнае газэты «Мужыцкая Праўда». Зварачае на сябе ўвагу імкненьне маладых беластаччанаў пазнаць свой край, ягоную гісторыю й культуру, праз турыстычныя падарожжы й паходы.

З хронікі, якая зьмяшчаецца ў кожным нумары, відаць некаторыя прынцыпова важныя намаганьні беларускае студэнцкае грамады. Гэтак, прыкладам, у леташнім зьлёце праваслаўнае моладзі на Сьвятой Гары Гарбарцы ўзяла ўдзел група беларускіх студэнтаў з Варшавы. Студэнты паставілі на абмеркаваньне пытаньне беларускае мовы ў царкве. Пасьля гэтага абаронцы роднае мовы мелі аўдыенцыю ў Мітрапаліта Васіля, галавы Праваслаўнае Царквы ПНР. На сустрэчы зь Мітрапалітам было пастаноўлена рабіць стараньні, каб багаслужба на беларускай мове была ўведзеная ў адну з варшаўскіх цэркваў. Вяліся перамовы аб гэтым з праваслаўным сьвятаром а. Дудзічам у Варшаве. Айцец Дудзіч сказаў, што фармальных перашкодаў для ўвядзеньня беларускае мовы няма, але гэта немагчыма дзеля «тэхнічных» прычынаў, адна зь якіх — гэта адмова царкоўнага хору сьпяваць пабеларуску.

Як бачым, беларускія студэнты ў Польшчы маюць перад сабой ці малыя перашкоды на грамадзкай ніве і вялікія заданьні. Прыемна аднак тое, што моладзь паступова горнецца да грамадзкае працы арганізованым парадкам.

**А. Будзіч**

## СЬВ. ПАМ. ВАСІЛЬ ЗАХАРКЕВІЧ
### (12.IX.1910 - 2.VII.1986)

Сьв. пам. Васіль Захаркевіч нарадзіўся 12 верасьня 1910 г. ў вёсцы Сітніца Ленінскай воласьці, Лунінецкага раёну на Палесьсі. Пачатковую асьвету здабыў у часе бурлівых гадоў рэвалюцыі й зьмены акупацыйных уладаў, а пасьля дапаўняў асьвету наведваньнем розных курсаў.

Адслужыўшы два гады ў польскім войску, вярнуўся дамоў і даглядаў сваю гаспадарку ды працаваў на фабрыцы фанеры.

У студзені 1937 г. Васіль Захаркевіч ажаніўся з Надзеяй Шчур, якая паходзіла зь мястэчка Мікашэвічы таго-ж раёну.

Па прыходзе бальшавікоў у 1939 г. працаваў далей на гаспадарцы й тэй-жа фабрыцы.

У часе нямецкае акупацыі В. Захаркевічу давялося ўзяць у рукі зброю, каб бараніцца ад камуністычных партызанаў.

Зь Беларусі Нябожчык эвакуаваўся разам зь сям'ёй улетку 1944 г. ў Нямеччыну, дзе па сканчэньні вайны жыў у амэрыканскай зоне акупацыі ў перасяленскіх лягерох (ДП) у Вэнцлеры, Шафэнбургу, Міхэльсдорфе й Розэнгайме. Браў актыўны ўдзел у грамадзкім жыцьці: быў сябрам беларускіх камітэтаў, шэфам пажарнае аховы, актыўным будаўніком царкоўнага жыцьця.

Сям'я Захаркевічаў прыбыла ў Амэрыку, у горад Нью-Ёрк, 29 травеня 1951 году.

Ад 1951 да 1986 году, гэта 35-гадовы пэрыяд — самая важная частка жыцьця сьв. пам. Васіля Захаркевіча. На працягу гэтых гадоў Нябожчык сумленна, салідна й пільна працаваў аж да часу добра заслужанай пэнсіі. Стараўся належна забясьпечыць патрэбы свае сям'і, даць навуку сваім дзецям, выхаваць іх у беларускім духу з пачуцьцём любові да свае мовы, культуры й традыцыяў, чаго ён дасягнуў у выдатнай меры, і мы спадзяёмся, што ягоныя дзеці будуць ісьці сьлядамі свайго бацькі ў тым-жа кірунку.

Нябожчык і ягоная спадарыня выдалі замуж сваіх дачок Олю, Валю й Лёдзю ды ажанілі сына Пятра так, як гэтага вымагае беларускі абычай, з царкоўным шлюбам і гучным вясельлем.

Сьв. пам. Васіль Захаркевіч быў сябрам Камітэту Набыцьця Беларускага Народнага Дому й Царквы на 401 Атлянтык Авэню ў Брукліне. Ён быў таксама адным зь першых, які даў грошы на пабудову царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле. Быў прыкладным прыхаджанінам у гэтай царкве, царкоўным старастам даўгія гады ды сьпяваў у хоры.



Браў Нябожчык актыўны ўдзел і ў дзейнасьці Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, быў сябрам управы акруговага аддзелу БАЗА ў Нью-Ёрку, сябрам Беларуска-Амэрыканскага Аб'еднаньня, належаў да Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў з рангаю лейтэнанта. Нельга не згадаць і пра ягоны ўдзел у набыцьці і ўтрымваньні беларускага цэнтру летняга адпачынку Бэлер-Менск.

Жыцьцёвы шлях сьв. пам. Васіля Захаркевіча ня быў лёгкі, але прайшоў ён яго сумленна, справядліва й горда.

Пакінуў Нябожчык у глыбокім смутку жонку Надзю, сястру Аляксандру Сэнэдзяк, дачку Олю й зяця Віктара Накутавічуса, сына Пятра й нявестку Кацярыну, дачку Валянтыну й зяця Сяргея Рагалевіча, дачку Лёдзю й зяця Эрла, дзесяцёх унукаў і двух праўнукаў.

Няхай Табе, дарагі дружа Васіль, сьняцца беларускія гоні й палескія гушчы, няхай Табе будзе лёгкая Амэрыканская зямля ды няхай будзе Табе вечная памяць у нашым грамадзтве.

**Канстантын Мерляк**

## КАМПАЗЫТАР Д. КАМІНСКІ

У ньюёрскай газэце «Новое Русское Слово» (16.VIII.86, было адзначана 80-годзьдзе ад нараджэньня беларускага кампазытара Дзьмітрыя Раманавіча Камінскага (хоць паводля «Беларускай Савецкай Энцыклапэдыі», як і паводля выдадзенага ў Маскве ў 1966 годзе «Энцыкляпэдычнага музыкальнага слоўніка», кампазытар нарадзіўся 17 жніўня 1907 г.). Аўтар артыкулу ў «НРС» Міхаіл Гольдштэйн кажа, што камп. Камінскі напісаў «зыркія музыкальныя творы» ды што ягонай творчасьці прысьвечана «нямала навуковых досьледаў». У творчасьці Камінскага, піша Гольдштэйн, знайшлі выкарыстаньне «цудоўныя народныя песьні» Беларусі і пра шмат якія з гэтых твораў «высока адазваўся Дзьмітры Шастаковіч».

Кампазытар Д. Камінскі, які нарадзіўся ў Екацярынаславе, ад 1945 г. жыў на Беларусі, у гадох 1963-1966 ён быў старшынём Саюзу кампазытараў Беларусі.

Кампазытар Д. Камінскі ў 1981 г. эміграваў з жонкай у Канаду. У выніку гэтага пра яго ўжо няма даведкі ў нававыдадзенай «Энцыкляпэдыі літаратуры і мастацтва Беларусі», а ягоныя творы, як піша ў «НРС» М. Гольдштэйн, у Савецкім Саюзе забаронена выконваць, прозьвішча Д. Камінскага выкасаванае зь фільмаў, музыку да якіх ён стварыў.

М. Гольдштэйн заклікаў музыкальных выканаўцаў на эміграцыі зацікавіцца творамі Дзьмітрыя Камінскага.

## ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСАЎ АМЭРЫКІ

### Аляксандар Сянькевіч

У газэце «Наша Ніва» ў нумары 3-м за 1907 год было зьмешчана паведамленьне: «*Сяло Мікалаеўшчына Мінскага павету.* Нашага вучыцеля А. Сянькевіча паліцыя хацела аршытаваць за тое, што ён стараўся адкрыць нам вочы на ўсе парадкі. Яму ўдалося ўцячы ў Амэрыку. — *Мікалаевец.*»

Аляксандру Сянькевічу, далёкаму сваяку Якуба Коласа, шанцавала. Скончыўшы Нясьвіскую настаўніцкую сэмінарыю, ён з галавой акунуўся ў беларуска-рэвалюцыйную дзейнасьць, заняўся арганізаваньнем настаўніцтва ды першага беларускага настаўніцкага зьезду, быў старшынём гэтага канспірацыйнага зьезду, які адбыўся на беразе Нёману ў 1906 годзе. Як ведама, у гэтым зьезьдзе браў актыўны ўдзел і Якуб Колас.

Аднак, за беларускай дзейнасьцю пільна сачыла царская паліцыя, і Аляксандру Сянькевічу пагражаў арышт. Сянькевіч уцёк у Амэрыку. Тут яму ўдалося здабыць вышэйшую асьвету: на ўнівэрсытэце ў штаце Мэрылэнд у гор. Балтыморы ў 1913 г. Сянькевіч атрымаў тытул доктара мэдыцыны.

І ў часе навукі і асабліва па сканчэньні ўнівэрсытэту Сянькевіч быў актыўным грамадзка-палітычным працаўніком. Ён стаўся адным зь піянераў анархістычнага руху ў Амэрыцы. Шмат часу аддаваў працы зь беларускімі імігрантамі ў Балтыморы, Філядэльфіі, Нью-Ёрку: закладаў гурткі пісьменнасьці, вучыў землякоў ангельскай мовы, чытаў ім на зборках газэту «Наша Ніва», зь якой меў цесную сувязь. У ягонай бібліятэцы былі сабраныя ўсе выдрукаваныя тады беларускія кніжкі. Пры ўсім гэтым др. Сянькевіч удала займаўся мэдыцынскай практыкай.

У сувязі з анархістычнай дзейнасьцю, аднак, Сянькевічу станавілася гарачавата ў штаце Мэрылэнд. Каб замясьці сьляды, ён падаецца на заходняе ўзьбярэжжа Амэрыкі. Адтуль, калі пачалася ў Расеі рэвалюцыя, др. Сянькевіч зь сям'ёй (жонка агонная была таксама Беларуска) паехаў на Далёкі Ўсход. Там партызаніў, быў намесьнікам міністра народнай асьветы Далёкаўсходняй Рэспублікі. Аднак яго цягнула на Беларусь.

Вярнуўшыся на Бацькаўшчыну, ён стаўся актыўным дзеячом у галіне асьветы й выдавецтва, быў рэктарам Камуністычнага Ўнівэрсытэту Беларусі ў Менску, пісаў апавяданьні, уваходзіў у склад рэдкалегіі часапісу «Полымя».

**На пачатку 1930-х гг. Сянькевіч быў арыштаваны як нацдэм і высланы зь Беларусі. Яго баржджэй за ўсё расстралялі ў 1938 годзе.**

### Ісак Гурвіч

У 1921 г. Беларускаму Дзяржаўнаму Ўнівэрсытэту, які тады арганізаваўся ў Менску, быў падараваны Ісакам Гурвічам вялікі кнігазбор шырокага тэматычнага дыяпазону. Частку гэтых кніжак Гурвіч прывёз з Амэрыкі.

І. Гурвіч нарадзіўся ў Менску ў 1860 г. ў заможнай гэбрэйскай сям'і. Па сканчэньні сярэдняй школы ў Беларусі вучыўся далей на юрыдычным факультэтце Пецярбурскага Ўнівэрсытэту, улучыўся ў рух народнікаў, трымаў цесную лучнасьць зь беларускімі народнікамі. Быў арыштаваны й высланы ў Сібір. Там зацікавіўся праблемай перасяленьня сялянаў у Сібір і на гэтую тэму напісаў працу, якую выдаў у Менску ў 1888 годзе.

Па сканчэньні ссылкі Гурвіч вярнуўся ў Менск ды аддаўся зноў рэвалюцыйнай працы, супрацоўнічаючы далей зь Беларусамі. У 1891 г. выехаў у Амэрыку, дзе стаўся лідэрам міжнароднага работніцкага руху. Па рэвалюцыі 1905 году вярнуўся ў Менск, дзе ў 1907 г. Беларусы падтрымалі ягоную кандыдатуру ў Дзяржаўную Думу Расеі. Не прайшоўшы ў выбарах, Гурвіч зноў выехаў у ЗША. У Амэрыцы працаваў сярод беларускіх імігрантаў, зьбіраў ня вельмі лічныя тады беларускія друкі, што пасьля, як частку свае багатае бібліятэкі, перадаў Беларускаму Дзяржаўнаму Ўнівэрсытэту.

**Вітаўт Кіпель**